*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



**2018, № 1(23). Студзень**

## Касцёл святога Андрэя ў Слоніме, 1916 год



Рыма-каталіцкі храм на плошчы Сапегі ў Слоніме — адна з візітовак нашага горада. Пабудаваны ў канцы XVIII стагоддзя, ён — маўклівы сведка падзей мінуўшчыны Слонімскага краю больш чым за два стагоддзі. Касцёл святога Андрэя пераражыў паўстанні, войны, атэістычныя савецкія часы і надалей служыць людзям і Богу. Ён прыцягвае ўвагу і турыстаў, і даследчыкаў, якія спрабуюць раскрыць усе таямніцы храма. Адшуканы кожны новы здымак — гэта падзея. Сяргей Чыгрын знайшоў іх некалькі (да іх далучаем і малавядомыя паштоўкі). Здымкі былі зроблены ў 1916 годзе падчас Першай сусветнай вайны. Храм моцна пацярпеў ад артылерыйскіх абстрэлаў верасня 1915-га, але не страціў сваёй велічы. З часам скончылася вайна, загаіліся раны, у касцёл вярнуліся людзі, і ён зноў стаў жыць звыклым жыццём. Да новых выпрабаванняў, якія таксама перанёс годна і цярпліва.

*Працяг на ст. 3.*

## На Слонімшчыне могуць прайсці маштабныя археалагічныя даследаванні

У Беларусі пройдуць маштабныя археалагічныя даследаванні аднаго з раёнаў. Сярод кандыдатаў — Слонімскі, Дзятлаўскі, Ашмянскі і Мінскі раёны. Пра гэта газеце “СБ. Беларусь сегодня” паведаміў намеснік дырэктара па навуковай працы Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, кандыдат гістарычных навук



***Фота: sb.by***

Вадзім Лакіза. Паводле яго слоў, у планах навукоўцаў — стварэнне падрабязнай археалагічнай карты Беларусі. А для гэтага трэба правесці суцэльнае абследаванне тэрыторыі, з прыцягненнем валанцёраў. Сёлета мусіць быць распрацаваны пілотны праект, маштабныя даследаванні пачнуцца з аднаго раёна. Спадзяемся, што са Слонімскага. Дарэчы, Лакіза — ураджэнец Дзятлаўшчыны.

●***СЁ***

# Помнік Тадэвушу Касцюшку з'явіцца ў Марачоўшчыне ў лютым

У мінулым нумары "СК" паведамляў, што ў Марачоўшчыне (афіцыйна — Мерачоўшчыне) каля Косава, дзе існуе музей нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША Тадэвуша Касцюшкі (1746 — 1817), з'явіцца яго чатырохметровы помнік. Грошы (больш за 22 тысячы рублёў) былі сабраныя, дзякуючы краўдфандынгавай кампаніі, якую распачаў журналіст і грамадскі дзеяч Глеб Лабадзенка. Нядаўна стала вядома, што з Міністэрства культуры быў атрыманы канчатковы дазвол на ўсталяванне помніка Касцюшку. Помнік і пастамент ужо гатовыя. Урачыстае адкрыццё мусіць адбыцца ў лютым 2018 года.

Помнік Тадэвушу Касцюшку ў Марачоўшчыне стане першым у Беларусі. Іх усталёўвалі ў Польшчы, Швейцарыі, ЗША, але, да нашага сораму, не было на радзіме героя. Цяпер жа і беларусы змогуць заявіць, што памятаюць і шануюць славутага земляка. Каля помніка будзе шыльда з прозвішчамі ўсіх ахвярадаўцаў, а гэта амаль 700 чалавек.




Кожны слонімец павінен памятаць, што Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся на тэрыторыі былога Слонімскага павета (толькі ў апошнія дзесяцігоддзі Марачоўшчына ўваходзіць у склад Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці). Ён з'яўляецца адным з самых вядомых нашых землякоў. Верым, што з часам і ўлады Слоніма згадаюць пра гэта, назавуць яго імем адну з вуліц горада.

# На ўездзе ў Слонім усталявалі паклонны крыж

21 снежня 2017 года на ўездзе ў Слонім з боку Баранавічаў быў усталяваны вялікі паклонны праваслаўны крыж. Асвяціў яго архіепіскап Навагрудскі і Слонімскі Гурый. Усталяванне крыжа адбылося з нагоды 700-годдзя Навагрудскай праваслаўнай епархіі і 25-годдзя яе адраджэння. Сродкі сабрала брацтва пры Свята-Троіцкім саборы.



*Фота: eparhia.by*

# Касцёл святога Андрэя ў Слоніме, 1916 год

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Так выглядаў касцёл святога Андрэя ў Слоніме падчас Першай сусветнай вайны ў 1916 годзе. Усе гэтыя здымкі сёння публікуюцца ўпершыню. Іх нават няма ў кнізе ”Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim” (Кракаў, 2013), грунтоўнай працы, якая выйшла пад рэдакцыяй польскага прафесара Марыі Каламайскай-Саед.

Лёс касцёла святога Андрэя ў XX стагоддзі быў няпростым. Яму дасталося ад Першай і Другой сусветных войнаў, але найбольш — ад савецкай улады, калі ў храме захоўвалася соль, якая хутка знішчала славуты помнік. І калі б яго ў 1990 годзе не перадалі вернікам і не пачалася рэканструкцыя, гэтага касцёла ў Слоніме ўжо не было б.

Былы настаяцель храма айцец Вітольд Жэльветра неяк расказаў мне, што калі ў 1800 годзе ў Варшаве паміраў дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, староста слонімскі Міхал Казімір Агінскі, ён загадаў, каб яго сэрца захоўвалася ў нашым горадзе. Бо яно належыць толькі Слоніму, дзе 25 гадоў існаваў яго вялікі тэатр. Калі не стала Агінскага, яго просьбу выканалі. Срэбны куфэрак з надпісам “Сэрца Агінскага” прывезлі ў Слонім і схавалі ў касцельных скляпеннях. Калі разбураўся касцёл, куфэрак з сэрцам Агінскага скралі бальшавікі і вывезлі кудысьці на ўсход.

Касцёл святога Андрэя ў Слоніме ўпершыню з’явіўся ў 1490 годзе. Ён быў драўляны, будаўніцтва фінансаваў кароль і вялікі князь Казімір IV Ягелончык. Сучасны касцёл з цэглы з’явіўся ў 1775 годзе, а пасля Першай сусветнай вайны яго рэстаўрыравалі. Калі Слонім знаходзіўся пад Польшчай, храм дзейнічаў і яго актыўна наведвалі мясцовыя каталікі. А пасля Другой сусветнай вайны ён зусім быў занядбаны.

Сёння касцёл святога Андрэя ў Слоніме — адзін з найпрыгажэйшых высокамастацкіх помнікаў архітэктуры позняга барока. Хочацца спадзявацца, што ён больш ніколі не зведае, як і самі вернікі, ліхалеццяў і войнаў. А будзе ўпрыгожваць Слонім сваёй веліччу і архітэктурай.





Slonim Die von den Russen zerstörte kath. Pfarrkirche

**●*Сяргей Чыгрын***

# Касцёл святога Андрэя ў Слоніме, 1916 год

*Працяг, пачатак на ст. 1, 3.*





Slonim. Der von den Russen zerstörte Stadtteil

# Калі ў Слоніме з’явілася электрычнае асвятленне?

Нядаўна споўнілася 100 гадоў з часу стварэння ў Слоніме першай электрастанцыі. Слонімская гарадская дума пастанавіла правесці ў горадзе электрычнае асвятленне на сваім пасяджэнні 10 траўня 1914 года.[1] Да пачатку Першай сусветнай вайны заставалася некалькі месяцаў. Ці паспелі гарадскія ўлады рэалізаваць гэты праект? Пакуль можам сцвярджаць, што работы дакладна пачаліся.

На сайце polona.pl ёсць паштоўка, выдадзеная ў 1915 годзе нейкім А. Бадровым.[2] У надпісе дарэчы ёсць памылка: “Слноимъ”. Відавочна, што выйшла паштоўка да верасня, калі горад апынуўся пад нямецкай акупацыяй (на фота не відаць слядоў баёў). Чым жа яна нас зацікавіла? Справа ў тым, што на паштоўцы відаць электрычны слуп, усталяваны на ўскрайку плошчы каля касцёла святога Андрэя. У розныя бакі ад яго разыходзяцца электрычныя драты. Значыць у той час прынамсі на Замосці ўжо стваралася ці была створана электрычная сетка. Але ці дзейнічала электрастанцыя? Найхутчэй работы проста не паспелі скончыць, а пасля падчас баёў паміж рускімі і нямецкімі войскамі нямала зробленага было знішчана.








Як пісаў Васіль Супрун, першую слонімскую электрастанцыю ў 1917 годзе змантніравалі і запусцілі нямецкія вайскоўцы.[3] Згадкі пра гэта ёсць і ў іншых даследчыкаў. А ў кнізе “Pinkas Slonim” у падборцы здымкаў, прысвечаных часу нямецкай акупацыі 1915-1919 гадоў, ёсць фота з подпісам “Першая слонімская электрастанцыя”.[4]

Сланімчанка Надзея Гайдук успаміпала, што “адно яны [немцы] пакінулі па сабе добрае [—] правялі ва ўсе дамы, нават хлявы і склепы электрычнае святло”. А да таго часу гарадскія вуліцы асвятляліся газавымі ліхтарамі.[5] А В. Супрун удакладняе, што асвятленне было толькі на цэнтральных вуліцах.[6]

Такім чынам, атрымліваецца што першая электрастанцыя ў Слоніме, святло ў дамах слонімцаў з’явілася падчас Першай сусветнай вайны. І ў мінулым годзе былі 100-я ўгодкі гэтай падзеі.

●*Сяргей Ёрш*

*[1] Сачок М. Гісторыя Слоніма ў дакументах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў горадзе Гродна // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў… Слонім, 2002. С. 90.*

*[2] https://polona.pl/item/slonim-slnoim,NTkwMzU2NQ/0/#item*

*[3] Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 89.*

*[4] Pinkas Slonim // http://yizkor.nypl.org/index.php?id=2867*

*[5] Рукапіс Надзеі Гайдук ад 1967 г. Захоўваецца ў Народным музеі імя А. Жукоўскага СШ № 4 г. Слоніма.*

*[6] Супрун В. Слонімшчына напярэдадні і ў час 1-й сусветнай вайны // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 148.*

**Замовы на атрыманне электроннай версіі “СК” дасылайце на нашу пошту: slonimskikraj@gmail.com**

# Пра плацёжныя боны слонімскіх вайскоўцаў

Плацёжныя боны ў выглядзе манет з'явіліся ў Беларусі яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай. Існавалі яны і падчас панавання на нашых землях Расійскай імперыі, а пасля і Польшчы. Бонамі, якія выробляліся з танных металаў, прыватнікі (прадпрыемствы, кааператывы і г. д.), напрыклад, плацілі частку заробку, і іх можна было атаварыць толькі ў пэўных крамах (гэта была "ўнутраная крэдытная валюта"). Вядомыя 5 капеек з надпісам "Братья Лозинскіе. Слонимъ", якія былі выпушчаныя ў пачатку XX стагоддзя.* Лазінскія былі ўладальнікамі завода, які выпускаў віно і дрожджы.



*На інтэрнэт-аукцыёне на сайце allegro.pl два гады таму была прададзеная манета, выдадзеная 79-м пяхотным палком польскага войска, які ў міжваенны час дыслакаваўся ў Слоніме.*

У 1920-1930-я гады падраздзяленні польскага войска, якія дыслакаваліся ў Слоніме, выпускалі плацёжныя боны. Вядомыя 50 грошаў, выробленыя з цынку. На манеце ёсць надпіс "кааператыў 79 п. п. Слонім". Таксама была выпушчаная 1 крэдытная марка кааператыва 79-га палка. Падобныя боны выпускаў і кааператыў 80-га пяхотнага палка. Грошы найчасцей выробляліся з цынку, а злотыя — з алюмінію. Наклад аднаго намінала не перавышаў 1000 асобнікаў.



**50 грошаў 79-га пяхотнага палка.**

●***Генадзь Гурскі***

**Колесинский В. Платежные боны кооперативов Западной Беларуси в 1920-1939 годах // Банкаўскі веснік, 2003, № 25. Верасень. С. 59-62; Яго ж. Монеты и бумаги кооперативов как часть денежного хозяйства на территории Западной Белоруссии в 1920-1939 г. // Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа: Зб. навук. пр. — Гродна: ГрДУ, 2003. С. 237-240.*

# Тэлеграф на Слонімшчыне, 1925 год

У 1925 годзе ў Варшаве была выдадзена "мапа тэлеграфічная", на якой адлюстравана і Слонімшчына. Тэлеграф — сродак перадачы сігнала як па дратах, так і праз радыё. У XIX стагоддзі ён зрабіў сапраўдную рэвалюцыю ў перадачы інфармацыі на адлегласць. Гэта было важна як для звычайнага чалавека, так і для дзяржавы, для бізнесу. У XXI стагоддзі тэлеграф лічыцца састарэлым сродкам сувязі, некаторыя краіны ад яго цалкам адмовіліся (напрыклад, летась — Бельгія), але ў Беларусі яшчэ ім карыстаюцца (адпраўляюць тэлеграмы). На сённяшні дзень існуе інтэрнэт, які дазваляе дастаўляць інфармацыю ў любую кропку свету імгненна.






На згаданай карце мы бачым, што Слонім меў тэлеграфную сувязь з Баранавічамі і Зэльвай па двух лініях, пракладзеных уздоўж чыгункі (яна праходзіла на ўсход праз Альбярцін) і аўтадарогі. Праз тэлеграф можна было звязацца з Жыровічамі і Дзераўной (далей гэтая лінія ішла на Моўчадзь). Яшчэ адна лінія ішла на паўднёвы захад, на Ружаны.

●***Генадзь Гурскі***

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г.*



Слонімскі край

2017, № 10(20). Кастрычнік

Слонімскі футбол у міжваенны час

У першай частцы нарыса гаворка ішла пра пачаткі футбола ў Слоніме. Падрабязна асвятляліся падзеі 1923-1924 гадоў. Нагадаем, што ў той час у нашым горадзе існавала каманда WKS (Wojskowy Klub Sportowy) Słonim, альбо WKS 79 PP Słonim — Вайсковы спартыўны клуб 79-га пяхотнага палка (яго кіраўніком быў капітан Галадык). У 1923 годзе яна някепска выступіла ў рэгіянальным першынстве Віленскай акругі ў "клясе Б", але ў 1924-м, магчыма, з-за фінансавых цяжкасцяў гуляла толькі ў Слоніме. Восенню 1924 года прайшло верагодна першае першынство нашага горада, якое выйграла каманда STS (Слонімскае спартыўнае таварыства). У той час футбольныя каманды былі не толькі ў Слоніме, але і ў Альбярціне.

**1925**

Сезон 1925 года распачаўся ў пачатку траўня матчам зборнай г. Слоніма (Reprezentacja m. Słonima) і WKS Słonim. Вайскоўцы выйгралі першы тайм з лікам 3:1, а ў другім развілі сваю перавагу і перамаглі — 7:2. У справаздачы адзначалася, што WKS выйграў "пры выдатнай дапамозе брамніка грамадзянскіх, якія гуляў без разумення".

Цікава, што ў іншай крыніцы згадваецца футбольны матч паміж WKS 79 pp. і STS, які таксама адбыўся ў пачатку траўня. Вайскоўцы разграмілі чэмпіёнаў Слоніма 1924 года з лікам 7:2. Адзначалася, што матч праводзіўся на карысць культурна-адукацыйнай арганізацыі "Polska Macierz Szkolna" (відаць, ёй перадалі грошы за прададзеныя квіткі на гульню*). З вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што гаворка ішла пра адзін і той жа матч. У STS збіралі лепшых слонімскіх футбалістаў, але годна супрацьстаяць WKS яны не маглі. Вайсковая каманда па-ранейшаму была наймацнейшай у нашым горадзе. Аднак у рэгіянальным турніры чэмпіянату Польшчы яна зноў не ўдзельнічала.

У канцы траўня ў Баранавічах праходзіла спартыўнае свята школьнай моладзі, на якое запрасілі і слонімскіх гімназістаў. Праводзіліся лёгкаатлетычныя спаборніцтвы, гімнастычныя, вайскова-спартыўныя, а таксама футбольныя. 24 траўня адбыўся футбольны матч KS Świtezianka (зборная дзяржаўнай гімназіі, Баранавічы) — KS Balladdyna (зборная дзяржаўнай гімназіі, Слонім). Ён скончыўся перамогай гаспадароў поля з лікам 2:0 (першы тайм — 0:0). Што да назвы слонімскай каманды, то хлопцы "пазычылі" яе ў польскага паэта і драматурга першай паловы XIX стагоддзя Юліюша Славацкага, які напісаў аднайменную трагедыю.

Летам 1925 года праводзіўся футбольны турнір на прызы кіраўніцтва 9-га армейскага корпуса (Брэст; DOK IX Brześć). На жаль, поўную інфармацыю пра яго сабраць пакуль не ўдалося. Вядома пра некалькі матчаў, якія праводзілі каманды са Слонімшчыны. 11 чэрвеня ў Баранавічах каманда слонімскага 80-га палка (WKS 80 p.p. Słonim) сустракалася з мясцовай вайсковай камандай (WKS 78 p.p. Baranowicze). Першы тайм скончыўся ўнічыю 1:1, а ў другім слонімцы прапусцілі тры галы. Вынік — 1:4. "Госці, якія часта пагражалі мясцовым, часам мелі перавагу, не заслужылі такога паражэння", — пісаў сведка таго матчу. Цікава, што судзіў паядынак і судзіў добра арбітр са Слоніма, нехта пан Ваўжыняк (Wawrzyniak).

21 чэрвеня 1925-га ў Слоніме, верагодна, на гарнізонным стадыёне прайшоў чарговы матч таго ж турніру. Спартыўны клуб сельскагаспадарчай



***Фота: blog.surgepolonia.pl***

школы ў Жыровічах (Kł. Sp. Szkoły Roln. Żyrowice) выйграў у баранавіцкай каманды "Свіцязянка" (G. K. S. Świtezianka Baranowicze) — 3:1(2:0). У справаздачы адзначалася, што каманда гаспадароў прадэманстравала добрую гульню, пераўзышла саперніка і тэхнічна, і тактычна. Як мінімум у 2-х галах вінаваты быў брамнік гасцей.

Кракаўскі "Kurjer sportowy", які напісаў пра гэты матч, пакінуў нам загадку. Па-першае, паведамлялася, што жыровіцкая каманда, дзякуючы гэтай перамозе выйшла ў фінал розыгрышу чэмпіянату 9-га армейскага корпуса. Аднак слядоў далейшага ўдзелу ў першынстве Kł. Sp. Szkoły Roln. Żyrowice пакуль знайсці не ўдалося. Па-другое, за інфармацыяй пра гэты паядынак паведамлялася пад той жа датай пра яшчэ адзін матч у Слоніме: Szkoła Rolnicza (Słonim) — Świtezianka (Baranowicze) — 3:1(2:0). Нам падаецца, што проста была дапушчаная памылка (і ўжо, як бачым, не першы раз) і гаворка ідзе толькі пра адзін матч (ды і цяжка было б баранавіцкім футбалістам згуляць двойчы за дзень). На карысць гэтага сведчыць той факт, што ў той час у Слоніме не было сельскагаспадарчай школы. У Грыбаве яна з'явілася толькі ў 1928 годзе.**

Такім чынам наступны сказ, які ў газеце адносіўся да "другога матчу", насамрэч мае дачыненне да "першага": "Найлепшыя на полі са Школы Ральнічай — Р. Даманьскі (R. Domański), у гасцей — Шыф і Лісоўскі". Нарэшце мы даведаліся прозвішча аднаго з футбалістаў каманды са Слонімшчыны. Як і ў выпадку з WKS 79 PP Słonim, сакрэт поспеху жыровіцкай каманды быў у тым, што ў школе вучыліся хлопцы з многіх рэгіёнаў тагачаснай польскай дзяржавы.



Некаторыя з іх і раней маглі займацца футболам. Фізічна моцныя, актыўныя, навучэнцы здолелі скласці добрую дружыну. Праўда, як і вайскоўцы, якія пасля заканчэння часу службы звальняліся і вярталіся ў свае рэгіёны, так і хлопцы з жыровіцкай школы пасля заканчэння вучобы вярталіся дахаты. І склад футбольнай каманды абнаўляўся. Дарэчы, вясной 1926-га ў Слоніме нарэшце сустрэліся наймацнейшыя каманды — зборная вайскоўцаў і жыровіцкая. Але пра гэты матч распавядзем у наступным нумары.

Ну і згадаем апошні вядомы нам паядынак турніру за чэмпіёнства "DOK IX Brześć" з удзелам слонімскай каманды. 18 ліпеня 1925-га ў Баранавічах WKS 79 p.p. (Słonim) выйграла ў WKS 26 p. ul. Wlkp. (26 Pułk Ułanów Wielkopolskich, падраздзяленне польскага войска, якое дыслакавалася ў Баранавічах) — 3:0 (2:0).

У тагачаснай спартыўнай прэсе было шмат нараканняў на судзейства. У 1925-м у Вільні гулялі каманды 1-га пяхотнага палка легіёнаў і "Макабі". У нейкі момант футбаліст апошняй каманды крыкнуў "Афсайд!". Суддзя пан Касвінэр на гэта адказаў: "Маўчы, смаркач!". Падчас паядынку ў той жа Вільні паміж варшаўскай "Палоніяй" і камандай 1-га пяхотнага палка легіёнаў заўзятар гучна крыкнуў "галёш!" і атрымаў удар у зубы ад старшыні Віленскай калегіі суддзяў маёра Кавальскага… На футбольным полі часам узнікалі сапраўдныя бойкі, але пра гэта ў наступных частках нарыса.

●***Сяргей Ёрш***

*Працяг у наступным нумары*

**Вядома, што ў 1925 годзе ў Беластоку цэны на білеты былі наступныя: стоячы футбол можна было паглядзець за 50 грошаў, сядзячы — за 1 злоты. І адзначалася, што білеты былі ці не самыя танныя ў Польшчы. Слонім быў горадам меншым за Беласток, а насельніцтва яднейшым, таму можна меркаваць, што квіткі прадавалі за меншую цану.*

***СЁ. Сельскагаспадарчая школа ў Грыбаве // Слонімскі край, 2017, № 7(17). Ліпень. С. 10.*

"Слонімскі край" можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат": http://kamunikat.org/

# Пра перайменаванне слонімскіх вуліц у 1928 годзе




Перайменаванне вуліц у часы панавання рускіх, польскіх і савецкіх уладаў было ў Слоніме з’явай частай. Дагэтуль не ўдалося сістэматызаваць усе гэтыя рашэнні мясцовых уладаў. Але інфармацыя збіраецца, складаецца ў мазаіку.

У лістападзе 1928 года на пасяджэнне сабралася слонімская гарадская рада. На ім прысутнічаў не толькі бурмістр Уладзімір Плябанскі, але і староста Уладзіслаў Геншаль. Яны і прапанавалі праект перайменавання вуліц з нагоды 10-х угодкаў здабыцця Польшчай незалежнасці. Бязыменная вуліца*, якая ішла ад Жыровіцкай (цяпер — Карла Маркса) да Шасейнай вуліцы, атрымала назву “вуліца 11 лістапада”. Цяпер гэта вуліца імя 17 верасня. Тады ж з плана горада знікла Мінская вуліца, якая існавала яшчэ з XIX стагоддзя. Яна атрымала назву “вуліца імя Маршалка Юзэфа Пілсудскага”. Цяпер гэта Савецкая вуліца, але не на ўсёй яе працягласці. На плане горада 1882 года відаць, што яна не даходзіла да цэнтра, упіралася ў адзін з рукавоў Шчары, паколькі ў гэтым раёне мастоў яшчэ не было. І калі пазней масты былі пабудаваныя, Мінская вуліца па-ранейшаму была толькі на правабярэжжы, ішла да чыгуначнай станцыі.

Тым жа рашэннем гарадской рады сквер на скрыжаванні Мінскай і Касцельнай (цяперашняй вуліцы Максіма Горкага) вуліц атрымаў назву “сквер імя Маршалка Юзэфа Пілсудскага”. Сквер быў каля старажытных яўрэйскіх могілак, а магчыма часткова іх займаў. Пасля Другой сусветнай вайны на гэтай тэрыторыі пабудавалі дамы.

Улады вырашылі “ўвекавечыць славутае мінулае горада” і “ўшанаваць памяць заслужанага ў развіцці горада грамадзяніна”. Гаворка ідзе пра старосту Міхала Казіміра Агінскага. Былі перайменаваны вуліцы Дамба, Абалонь і Жабінка, яны сталі называцца “Бульвары імя князя Міхала Казіміра Агінскага” (па абодва бакі Малога каналу). Цяпер гэта вуліца Агінскага. Магчыма, Жабінка трапіла ў рашэнне рады памылкова, бо на плане горада ад 1934 года яна прысутнічае побач з бульварамі князя Агінскага.




Яўрэйская большасць гарадской рады пралабіравала перайменаванне вуліцы ў гонар Бэрка Ёселевіча (1764 — 1809). Ёселевіч — афіцэр польскага войска, палкоўнік, камандзір яўрэйскага падраздзялення падчас вызваленчага паўстання Касцюшкі. На эміграцыі служыў у арміі Напалеона, загінуў падчас вайны з Аўстрыяй. Аднак да Слоніма ён не меў ніякага дачынення. У рашэнні рады адзначалася, што ў гэтай асобе яна бачыць “сімвал супрацоўніцтва палякаў і яўрэяў у барацьбе за незалежнасць Рэчы Паспалітай”. Вуліца Шырокая стала называцца “вуліца імя палкоўніка Бэрка Ёселевіча”. Цяпер гэта вуліца Гнідаша.

●***Сяргей Ёрш***

**Ёсць памылковая згадка, што на пачатак 1880-х вуліца існавала і называлася “Падгорная” (Слонімскі веснік, 2014, № 109-110, 17 верасня). Насамрэч, тая вуліца праходзіла бліжэй да цэнтра. Відаць, цяперашні завулак Дружбы — гэта частка былой Падгорнай вуліцы.*

## З ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

# Малавядомыя вершы Анатоля Іверса

Да 100-годдзя слонімскага паэта Анатоля Іверса (Івана Міско, 1912 — 1999) мне ўдалося падрыхтаваць і выдаць тры тамы яго твораў: вершы, публіцыстыку і ўспаміны пра пісьменніка. Самае лепшае з вершаў уключыў у першы том “Аўсяныя росы” (Мінск, 2011).

А нядаўна, гартаючы старыя падшыўкі слонімскай раённай газеты “Вольная праца” за 1959 год, натрапіў на тры вершы, якія не ўвайшлі ў “Аўсяныя росы”. Вершы добрыя, шчырыя, прысвечаныя апошняй вайне ў Беларусі і таму ладу, які будаваўся ў рэспубліцы і па ўсім Савецкім Саюзе. Думаю, што іх варта вярнуць з тых далёкіх гадоў, хоць і маюць яны права на рэдагаванне. Калі б жыў сам паэт, ён некаторыя строфы ў вершах памяняў бы. Тым не менш, як яны былі напісаны ў той час, у такім выглядзе прапаную паэтычныя творы Анатоля Іверса чытачам “Слонімскага краю”.

***Сяргей Чыгрын***

### У сасновым бары

— Дзень добры, мой родны сасоннік,
Падрос за пятнаццаць ты год!
І бор прачынаецца сонны
На кліч прывітання майго.
Калісьці па гэтых па сцежках
Мы з лесу выносілі тол,
І помніцца кожнага ўсмешка,
Зрабіўшы на станцыі “толк”.
Не змог акупант пажывіцца —
Краіне мы лес збераглі,
Каб хвоя прыёмнік жывіцай
Напоўніла па берагі.
З фундамента і да карніза,
Каб пахлі будоўлі сасной,
Каб ззялі агні камунізма
Нам з кожнай дзялянкі лясной.

### На партызанскіх сцежках

Мая жыццёвая дарога
Праходзіць лесам, праз палі.
І мне патрэбна так нямнога,
Каб сэрца шчасцем запаліць.
І я гатоў да позняй ночы
Садзіць сасонкі і дубкі
На той паляне, дзе званочак
Ў траве рассыпле свой блакіт.
А колькі вырасце суніцаў —
Такога паху і дабра!
Ну як, скажыце, не спыніцца,
Каб свежых ягад не набраць?
А я калісьці паміж траў
Шукаў не ягадаў, а мін
На партызанскіх пераправах,
Каб з нас не згінуў ні адзін.

### Узрываем пні

Калі ўзнімалі смерчы
Снарады ў тую пору,
Не думаў я аб смерці —
Яна ж хадзіла поруч…
Красуе ў полі жыта
І свецяць Волгабуды,
А час той перажыты
Ніколі не забуду.
Хоць пасля дзён пакутных
Жыццё бурліць крыніцай,
Мне гул гарматны чутны,
І вораг часам сніцца.
Ды ворагу любому
Праходы ў нас закрыты,
Збірайце ж у альбомы
Больш сонечных адкрытак!
А калі хто з прасоння
Пачуе грукат воддаль, —
Мы пні ўзрываем сёння
Для нашых смалзаводаў.*

●***Анатоль Іверс,***
**1959 г.**



**Пакольні савецкія ўлады доўгі час не прызнавалі Слонімскую антыфашысцкую арганізацыю, Івану Міско давялося цяжка: звальнялі з працы, зневажалі, стваралі некамфортныя ўмовы для жыцця і творчасці. У 1950-1960-я гады ён працаваў у лесахімічнай прамысловасці — карчаваў пні ў лесе (Анатоль Іверс: Павінен ехаць на месячныя курсы кіраўнікоў узрыўных работ… // Слонімскі край, 2016, № 4. Травень. С. 14-15). Яго першая пасляваенная кніга выйшла толькі ў 1970 годзе. — “СК”.*



ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

Орган Слонімскага райкома Камуністычнай партыі Беларусі, раённага і гарадскога Саветаў дэпутатаў працоўных

№ 86 (2333) | АЎТОРАК, 21 ліпеня 1959 г. | ГОД ВЫДАННЯ XVIII Цана 15 кап.

З АРХІВАЎ

# Пра вёску Савічы і яе жыхароў





На этом собрании из общего числа

Сельско-хозяйственная артель „ВПЕРЕД"

Председатель

фамилия

У Занальным дзяржаўным архіве ў Навагрудку захоўваецца нямала матэрыялаў па гісторыі Слонімшчыны ў савецкі перыяд. Даследчыкі імі цікавяцца рэдка. Напрыклад, акрамя архівістаў, справы фонду "Сельскагаспадарчая арцель (калгас) "Наперад", в. Савічы Шылавіцкага сельскага Савета Слонімскага раёна" 1950-1952 гадоў да лета мінулага года ніхто не праглядаў. Дакументы гэта спецыфічныя — статут арцелі (ён быў зарэгістраваны рашэннем выканкама Слонімскага раённага Савета дэпутатаў 23 сакавіка 1950 года), пратаколы сходаў, спісы работнікаў і кіраўніцтва, інвентарная кніга, дакументы ўліку. Ёсць нават спісы з мянушкамі коней, быкоў і г. д.

Афіцыйна заяўлялася, што ў калектыўныя гаспадаркі сяляне ўступалі добраахвотна. На справе ж выходзіла, што без прымусу не абыходзілася. І не дзіўна, бо працаваць прыходзілася за "працадні". Самі ішлі ў калектыўную гаспадарку хіба ідэйныя прыхільнікі савецкай улады ды тыя, у каго было мала хатняй жывёлы, сельскагаспадарчага інвентару. Астатніх розным чынам "падштурхоўвалі" (напрыклад, можна было прыгразіць высылкай сям'і ў Сібір ці Казахстан).

У першыя пасляваенныя гады ў Заходняй Беларусі ствараліся "сельскагаспадарчыя арцелі", якія пазней сталі называцца калгасамі. Уступаючы ў "арцель", селянін мусіў бясплатна ёй перадаць частку сваёй маёмасці. У архіўных справах захаваліся спісы перададзенага. На пачатку 1952 года "Наперад" меў 30 гумнаў, 48 конных плугоў, 12 баронаў, 11 культыватараў, 3 малацілкі… Часам "паступлення ў калгас" маёмасці пазначаны травень і верасень 1950-га, травень 1951 года.

Гэтыя дакументы могуць быць важныя для тых слонімцаў, якія цікавяцца гісторыяй сваёй сям'і, свайго населенага пункта. У архіўных паперах можна нават адшукаць аўтографы сваякоў.

У пасляваенны час арцелі/калгасы былі створаны практычна ў кожнай вёсцы (іх дакументацыя таксама захоўваецца ў навагрудскім архіве). Пазней адбылося "ўзбуйненне". Вёска Савічы ўжо адносілася да калгасу (пазней — саўгасу) "Маладая гвардыя" з цэнтрам у Шылавічах.

●*Сяргей Ёрш*

Протокол

Общего собрания крестьян дд. Савичи, Шиловского с/сов.
Слонимского р-на Барановичской обл.

от 22 февраля 1950 года

Президиум собрания: 1) Герко Ник. Ив. 2) Шухно Иван Ф.
Повестка дня: Секр. 3) Кандиранда Василий Григорьевич

1. Преимущества колхозного строя над единоличным крестьянским хозяйством
2. Организационные вопросы.

Слушали: Зам. председателя Исполкома г. Крупенька

В своем выступлении он рассказал о задачах поставленных партией большевиков по вопросу переустройства единоличных крестьянских хозяйств, на социалистический путь, а также о ходе коллективизации в нашем районе. Советский народ в 1949 году превзошел довоенный уровень промышленности и сельского хозяйства. Советский народ под руководством т. Сталина идет от побед к

---

ГОДОВОЕ ПРОИЗВОДСТВЕННОЕ ЗАДАНИЕ БРИГАДЕ № 3

колхоза „Вперёд"

Шиловичского сельсовета Слонимского района

на 1952 год

Фамилия, имя и отчество бригадира Ерш Дмитрий Васильевич

---

с/хоз. артель

ДЕЛО №

Устав сельхоз. артели „Вперёд" д. Савичи / Шиловичского сельсовета Слонимского района, Барановской области БССР

НАЧАТО „__"______194_ г.

ОКОНЧЕНО „__"______194_ г.

---

...и растрат имущества и денежных средств артели, как артель расчитывается по обязательствам перед государством, как платит по своим долгам и как взыскивает долги с должников артели.

Наряду с этим ревизионная комиссия тщательно проверяет все расчеты артели со своими членами, выявляет каждый случай обсчета, неправильного начисления трудодней, несвоевременного расчета по трудодням и другие случаи нарушения интересов артели и ее членов.

Ревизионная комиссия производит ревизию четыре раза в год. По годовому отчету правления, перед общим собранием ревизионная комиссия дает свое заключение, которое общее собрание заслушивает непосредственно вслед за отчетом правления. Акт ревизии утверждается общим собранием.

В своей деятельности ревизионная комиссия подотчетна общему собранию членов артели.

По поручению общего собрания членов артели, устав подписали:

1. Шухно Александр Николаевич
2. Шухно Кирил Иванович
3. Ерш Александр Нестерович
4. Стрыювец Николай Афанасьевич
5. Шухно Мария Тихоновна
6. Ерш Иван Федорович
7. Ерш Иван Антонович

Подписи учредителей и членов правления заверяю:

Пред: сельсовета:

Секретарь:

Настоящий устав сельскохозяйственной артели ______ сельсовета Слонимского района, Барановичской области, БССР зарегистрирован в книге регистрации уставов сельскохозяйственных артелей по Слонимскому району под номером ______ от "23" марта 1950 года.

# Слонімскі гандаль у сярэдзіне 1920-х гадоў

У дадатку да афіцыйнага бюлетэню Міністэрства юстыцыі Польшчы (“Obwieszczenia Publiczne: dodatek do Dziennika Urzędowego Ministerstwa Sprawiedliwości”) у міжваенны час змяшчалася нямала інфармацыі, якая мае дачыненне да Слоніма. Некаторыя матэрыялы даюць уяўленне пра тагачасны слонімскі бізнес. З гэтага нумару “СК” мы пачынаем друкаваць спіс фірмаў, якія ў 1925 годзе займаліся ў нашым горадзе гандлем. Некаторыя з іх існавалі яшчэ з царскіх часоў, нават з XIX стагоддзя.



*Гандаль на вуліцы Школьны Двор у Слоніме. Фота часоў Першай сусветнай вайны.*

**“Dwejra Skudzicka”**. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1924. Крама знаходзілася ў Слоніме на Гандлёвай плошчы (цяпер — пл. Леніна) у будцы. Уладальніца — Двейра Скудзіцка, жыхарка Слоніма.

**“Chana Szmajewska”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Слонім, вул. Доўгая (цяпер — Касманаўтаў), 26. Уладальніца — Хана Шмаеўская. Яна жыла ў доме, дзе знаходзілася крама.

**“Mera Anucznik”**. Гандаль мясам. Год заснавання — 1923. Слонім, вул. Школьны Двор (цяпер — Савецкая, участак ад Першамайскай вуліцы да галоўнай сінагогі). Уладальніца — Мэра Анучнік. Яна жыла ў доме, дзе знаходзілася крама.

**“Michel Awinowski”.** Гандаль жалезам і вяроўкамі. Год заснавання — 1901. Слонім, Гандлёвыя рады, № 85. Уладальнік — Міхэль Авіноўскі. Ён жыў у Слоніме, Школьны завулак, 7.

**“Leja Bekensztejn”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Крама знаходзілася ў Слоніме на вул. Панятоўскага (цяпер — Пушкіна), 46. Уладальнік — Лея Бекенштайн. Ён жыў у тым жа доме, дзе была крама.

**“Nachemja Błoszański”.** Гандаль жалезнымі вырабамі. Год заснавання — 1923. Слонім, Гандлёвыя рады, № 34. Уладальніца — Нахемія Блашаньская. Яна жыла ў Слоніме, вул. Царкоўная, 26.

**“Mera Churgin”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Крама знаходзілася ў Слоніме на Гандлёвай плошчы ў будцы № 10. Уладальніца — Мэра Хургін. Яна жыла ў Слоніме, вул. Парадная (цяпер — Першамайская, ніжняя яе частка), 14.

**“Gdala Gawuryn”.** Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвыя рады, III. Уладальніца — Гдаля Гавурын. Яна жыла ў Слоніме, вул. Падгорная (цяпер — Сінічкіна), 6.

**“Nachman Duniec”.** Аптэка. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча, 9. Уладальнік — Нахман Дунец. Ён жыў у тым жа будынку.

**“Mejta Epsztejn”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1924. Крама знаходзілася ў Слоніме ў Аптэчным завулку, 4. Уладальніца — Мейта Эпштайн. Яна жыла ў тым жа доме.

**“Pesza Gorynowska”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1922. Крама знаходзілася ў Слоніме па Андрэеўскай вуліцы, 47 (цяпер гэта тэрыторыя рынку каля галоўнай сінагогі). Уладальніца — Пэша Гарыноўская. Яна жыла ў тым жа будынку.

**“Sara Gamarna”.** Гандаль жалезам. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвыя рады, № 62. Уладальніца — Сара Гамарна. Яна жыла ў Слоніме, вул. Падгорная, 24.

**“Leja Ickowicz”.** Продаж пёраў. Год заснавання — 1923. Слонім, вул. Андрэеўская, 16 (цяпер гэта тэрыторыя рынку). Уладальніца — Лея Іцкавіч. Яна жыла ў тым жа доме.

**“Icko Jakimowski”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1911. Крама знаходзілася ў Слоніме па Доўгай вуліцы, 20. Уладальнік — Іцка Якімоўскі. Ён жыў у тым жа будынку.

**“Leja Jarmołowska”.** Набыццё і продаж рыззя. Год заснавання —

1923. Слонім, вул. Віленская. 14. Уладальніца — Лея Ярмалоўская. Яна жыла ў тым жа доме.

**"Jewel Kiszczycki".** Гандаль абуткам і насеннем. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвыя рады, № 40. Уладальнік — Евель Кішчыцкі. Ён жыў у Слоніме, вул. Панятоўскага, 8.

**"Hirsz Kaufman".** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Крама знаходзілася ў Слоніме на Гандлёвай плошчы, 16. Уладальнік — Гірш Каўфман. Ён жыў у Слоніме па вул. 3 Мая, 3.

**"Ester Kerman".** Сталоўка і піўная. Год заснавання — 1925. Слонім, вул. Касцюшкі (цяпер — Маякоўскага), 4. Уладальніца — Эстэр Керман. Яна жыла ў тым жа доме.

**"Jankiel Swietycki".** Гандаль абуткам. Год заснавання — 1911. Слонім, Гандлёвыя рады, № 53. Уладальнік — Янкель Светыцкі. Ён жыў у Слоніме па Школьнай вуліцы, 37.

**"Frejda Lublińska".** Гандаль галантарэяй і хусткамі. Год заснавання — 1922. Слонім, вул. Бернардынская (цяпер — Васі Крайняга), 30. Уладальніца — Фрэйда Люблінская. Яна жыла ў тым жа будынку.

**"Newach Lubowski".** Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1924. Слонім, Жыровіцкі завулак (цяпер не існуе, праходзіў побач з цяперашняй крамай "Салют", паміж вуліцамі 3 Мая і Жыровіцкай, цяпер — Чырвонаармейскай і Карла Маркса), 7. Уладальнік — Невах Любоўскі. Ён жыў у тым жа доме.

**"Lejba Murkies".** Продаж галантарэйных тавараў, вады содавай і ліманаду. Год заснавання — 1924. Слонім, вул. Жыровіцкая, 15. Уладальнік — Лейба Муркес. Ён жыў у тым жа доме.

**"Jakób Miłakowski".** Гандаль тканінай і адзеннем. Год заснавання — 1924. Слонім, вул. Сянкевіча (цяпер — Першамайская, верхняя яе частка), 80. Уладальнік — Якуб Мілакоўскі. Ён жыў у Слоніме па Ружанскай вуліцы, 3.

**"Josiel Mowszowicz".** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Крама знаходзілася ў Слоніме па вуліцы Шэптыцкага (верагодна, гэта была частка Мастовой вуліцы (паміж мастамі), цяпер — Янкі Купалы), 21. Уладальнік — Ёсель Моўшавіч. Ён жыў у тым жа будынку.

**"Rejzla Ostrowska".** Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвая плошча, 20. Уладальніца — Рэйзла Астроўская. Яна жыла ў Слоніме па Ружанскай вуліцы, 10.

**"Zlata Piekarska".** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1880. Слонім, вул. Школьны Двор, 8. Уладальніца — Злата Пякарская. Яна жыла ў Слоніме па вул. Царкоўнай, 41.

**"Dwejra Peszkin".** Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча, будка 34. Уладальніца — Двейра Пэшкін. Яна жыла ў Слоніме па Жыровіцкай вуліцы, 20.

**"Eszka Prużanska".** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1912. Слонім, вул. Андрэеўская, 4. Уладальніца — Ешка Пружанская. Яна жыла ў Слоніме па вуліцы 3 Мая, 21.

**"Beila Rogal".** Гандаль прадуктамі харчавання і посудам. Год заснавання — 1924. Слонім, вул. Андрэеўская, 14. Уладальніца — Бэйла Рогаль. Яна жыла ў Слоніме на Шырокай вуліцы (цяпер — Гнідаша), 3.

**"Ester Ryżykowa".** Продаж пёраў. Год заснавання — 1923. Слонім, вул. Андрэеўская, 14. Уладальніца — Эстэр Рыжыкава. Яна жыла ў тым жа доме.

**"Brajna Rejskin".** Кавярня-кандытарская. Год заснавання — 1923. Слонім, Гандлёвая плошча, будка. Уладальніца — Брайна Рэйскін. Яна жыла ў тым жа будынку.

**"Rachela Rubinowa".** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1922. Слонім, Гандлёвыя рады, № 86. Уладальніца — Рахеля Рубінава. Яна жыла ў Слоніме ў завулку Пакручастым (цяпер — у межах Зялёнай вуліцы), 15.

*Працяг у наступным нумары*

*Падрыхтаваў ● Сяргей Ёрш*




***Гандлёвыя рады ў Слоніме. Разбураныя падчас Другой сусветнай вайны. Цяпер на гэтым месцы знаходзіцца сквер па Першамайскай вуліцы.***

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Іешуа Ваўпянскі

Рэдка калі слонімцы ў замежжы станавіліся вядомымі спартыўнымі дзеячамі. Такую кар'еру ўдалося зрабіць Іешуа Ваўпянскаму. Ён нарадзіўся ў Слоніме 4 сакавіка 1900 года. Пасля заканчэння ў 1912 годзе яўрэйскай рэлігійнай пачатковай школы, бацькі (Іцхак-Якаў Ваўпянскі і Хая-Шашана Удалая) адправілі яго ў Палесціну на зямлю продкаў. Яўрэі ў той час не мелі сваёй дзяржавы, але рыхтаваліся да важнага кроку — яе абвяшчэння. Вялікую ролю адыгрывалі разнастайныя спартыўныя арганізацыі, удзельнікі якіх пасля стваралі ізраільскае войска, іншыя сілавыя структуры.

Нямала высілкаў прыклаў Іешуа Ваўпянскі, які стаў Іехошуа Алуфам. Спачатку ён скончыў гімназію ў Тэль-Авіве, а пасля выкладаў у ёй фізічнае выхаванне (а таксама ў шэрагу школ Іерусаліма). Працягваў гэтым займацца і пасля 1925 года, калі скончыў у Капенгагене інстытут фізкультуры (відаць, у той час ён наведваў сваякоў у Слоніме).


Фота: wikipedia.org

У 1938-1965 гадах Алуф працаваў інспектарам па фізічнай культуры ў яўрэйскіх школах. Ён быў сярод заснавальнікаў шматлікіх арганізацый, у тым ліку выкладчыкаў фізвыхавання, Алімпійскага камітэта Ізраіля (дзяржава была створана ў 1948 годзе). З 1932-га слонімец арганізоўваў Макабіянскія гульні (аналаг Алімпіяды, у якіх удзельнічалі толькі яўрэйскія спартсмены), быў дзеячом Сусветнага саюза Макабі. Іехошуа Алуф нейкі час кіраваў аддзелам фізкультуры і спорту Мінадукацыі і культуры Ізраіля.

Алуф быў чалавекам заслужаным і паважаным у Ізраілі. За сваю шматгадовую актыўную і плённую дзейнасць, як грамадскую, так і на дзяржаўных пасадах, за працы на тэму фізічнага выхавання, у 1974-м ён быў ушанаваны дзяржпрэміяй.

Памёр наш зямляк 26 ліпеня 1980 года ў Ізраілі.

●*Генадзь Гурскі*

# Фларыян Пякарскі

Сёлета спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння польскага мастака Фларыяна Пякарскага. Ён нарадзіўся ў Слоніме ў 1868-м у сям'і Язэпа і Юліі Пякарскіх. Відаць, з дзяцінства выявіў здольнасці да малявання, з часам вырашыў звязаць з гэтым сваё жыццё. Пасля заканчэння школы бацькі адправілі Фларыяна ў Варшаву, дзе ён вучыўся ў Войцеха Герсана, які гаварыў пра слонімца, як пра "вельмі здольнага, сумленнага і працавітага вучня".


*Карціна Фларыяна Пякарскага "Вясковая дзяўчына" (1912).*

Пякарскі ўжо не вярнуўся на радзіму, застаўся ў Польшчы і быў страчаны для беларускай культуры. У канцы XIX стагоддзя ён пераехаў у Кракаў, вучыўся ў мясцовай Акадэміі выяўленчых мастацтваў. У той час яго карціны (пейзажы і партрэты) пачалі з'яўляцца на выставах (у тым ліку і ў Вільні), гэтыя працы былі заўважаныя мастацтвазнаўцамі.

Памёр мастак 20 лютага 1919 года ў Варшаве. Яго карціны знаходзяцца ў музеях Польшчы, Украіны, Літвы.

●*Генадзь Гурскі*

# Слонімская настальгія па 1970-х — 1980-х гадах

Каб сказаць, што я вельмі настальгую па другой палове XX стагоддзя, дык не. Але часам прыгадваецца нешта добрае і прыгожае з тых, здаецца, нядаўніх гадоў. Пераглядаючы свой хатні архіў, натрапіў на цікавыя слонімскія друкаваныя выданні. Гэтыя выданні вяртаюць у той савецка-камуністычны час на Слонімшчыну, бо запрашэнні, буклецікі, праграмкі, этыкеткі засталіся на памяць, а многіх установ і прадпрыемстваў, якія іх выпускалі і рыхтавалі, даўно няма. Яны проста зніклі напачатку XXI стагоддзя: адны вельмі хутка, іншыя паціху даканалі, змагаючыся з новым часам і праблемамі.

Дзейнічала ў другой палове 1980-х гадоў дыскатэка "Імпульс" на камвольна-прадзільнай фабрыцы. Яна праводзіла розныя вясёлыя вечары адпачынку. Месцілася дыскатэка "Імпульс" у інтэрнаце па адрасе: вуліца Брэсцкая, д.69/2. Уваход быў платны, альбо па запрашэннях, якія вырабіла дыскатэка. Вось такія, якія мы сёння публікуем.




Да ўсіх дзяржаўных святаў Слонімскі гарадскі камітэт кампартыі Беларусі выпускаў у Слонімскай друкарні спецыяльныя запрашэнні. Наклад іх вагаўся ад 400 да 700 штук. І яны высылаліся тым, каго гаркам хацеў бачыць на сваіх мерапрыемствах.

У канцы 1970-х гадоў у Беларусі існавала дабраахвотнае таварыства аматараў кнігі. Яно наладжвала розныя сустрэчы чытачоў з пісьменнікамі, прэзентацыі кніг. Захаваўся ў мяне невялікі буклецік "Слонімскія "крыніцы" (1978 год). У ім паведамлялася пра тое, што ў канцы лютага 1977 года ў кніжнай краме на вуліцы Чырвонаармейскай (цяпер гэтай кнігарні няма) сабраліся дзесяткі слонімцаў і вырашылі стварыць клуб кнігалюбаў "Крыніцы". За ўвесь 1977 год актывісты гэтага клуба правялі 6 пасяджэнняў. На адну з такіх сустрэч у Слонім прыязджалі пісьменнікі з Мінска Павел Пруднікаў, Павел Місько і Яўгенія Янішчыц. На сустрэчы прысутнічаў і слонімскі паэт Анатоль Іверс. Буклецік гэты падрыхтаваў Давід Зінгер. Наклад яго складаў 500 асобнікаў.

Выпускала запрашэнні і праграмкі Слонімская цэнтральная бібліятэка імя Якуба Коласа (яны друкаваліся ў мясцовай друкарні). На ўвесь год у іх былі распісаны паэтычна-музычныя чацвяргі. Вось, напрыклад, што адбывалася ў гасцёўні ў 1989 годзе. Вечарына, прысвечаная 75-годдзю Валянціна Таўлая, "разнастайнасць лірычных галасоў паэтаў Слонімшчыны", "паэзія перабудовы" (вядучы — Рудольф Пастухоў), мерапрыемства, прысвечанае 50-годдзю выхаду першага зборніка Анатоля Іверса, вечар "З'ўяднае ўсе людскія сэрцы твой вобраз з дзіцём на руках" — сустрэча з маці-гераінямі (вядучая — Марыя Пятрашка), вечар "Край любы — мой лёс" (вядучая — Ірына Шпыркова), сустрэча з літаратурным аб'яднаннем пры раённай газеце "За перамогу камунізму" — "Слонімскія зарніцы" (да 50-годдзя аб'яднання) і г. д.

Захавалася ў маім архіве і яшчэ адно запрашэнне ў літаратурна-музычную гісціну на 1988 год. Давайце пачытаем, якія тады

адбываліся мерапрыемствы ў бібліятэцы імя Якуба Коласа. Гэты год якраз быў юбілейны — наша рэспубліка рыхтавалася да 70-годддзя БССР і кампартыі Беларусі. Таму і вечары ладзіліся да гэтай даты. На працягу года ў літаратурна-музычнай гасцінай адбываліся вось такія мерапрыемствы: “Беларусь, я — твой воін і сын” (студзень), “Ты сын наш геройскі — Кастусь Каліноўскі” (люты), “З’яднае ўсе людскія сэрцы твой вобраз з дзіцём на руках” (сакавік), “Пачынаемся з Леніна мы” (красавік), “Вайна — і боль, і памяць, і ўрокі” (май), “Героі Максіма Горкага ў нас у гасцях” (сустрэча з народным тэатрам) (чэрвень), “Зямля Беларусі! Табой мы сагрэты!” (ліпень), “Пяцьдзесят маіх вёсен і зім” (прысвячаецца юбілярам — паэтам і кампазітарам Беларусі) (жнівень), “Беларусь — мая маці і мова, паветра і хлеб” (верасень), “Адрас паэзіі — адрас любові” (лістапад) і “Памяці дастойныя” (снежань).

Слонімскія прадпрыемствы ў той час добра працавалі і выпускалі ўласную прадукцыю. Вядома ж, яны мелі і свае этыкеткі, якія прымацоўваліся да яе. Такія этыкеткі мелі фабрыка “Тэкстыльшчык”, фабрыка пер’е-пуховых вырабаў, вытворчае аб’яднанне мастацкіх вырабаў, прамкамбінат. Дарэчы, некаторых гэтых прадпрыемстваў у Слоніме ўжо няма. А калгас “Кастрычнік” Слонімскага раёна выпускаў “Рубец па-беларуску”. Радаваў слонімцаў не “чарнілам”, а рознымі салодкімі напоямі былы Слонімскі завод безалкагольных напояў. У шкляных бутэльках выпускаліся напоі “Южанка”, “Абрикосовый аромат” і іншыя. Пра ўсё гэта нагадваюць сёння толькі этыкеткі. З таго часу прайшло ўжо 30-40 гадоў.

●*Сяргей Чыгрын*















# Слонімская настальгія па 1970-х — 1980-х гадах













Состав:
рубец говяжий, морковь, перец черный, лавровый лист, соль, бульон. Перед употреблением разогреть

100 г. продукта содержат:
белков — 14,8 г.
жиров — 4,2 г.
Энергетическая ценность — 97 ккал









КНІГАРНЯ

# Новыя кнігі землякоў

У канцы 2017 года ў слонімскай друкарні была выдадзена першая кніга слонімца Міхаіла Шуляка “Па следу продкаў”. Аўтар напісаў пра гісторыю вёскі Азярніца і зрабіў гэта незвычайна — з выкарыстаннем артэфактаў, знойдзеных у яе наваколлі па-за зонай археалагічных помнікаў (звычайна на калгасных палях). Некаторыя з іх вельмі рэдкія, як медная сякерка часоў бронзавага веку, ці срэбная парфянская драхма першага стагоддзя да нашай эры, альбо вачкавая фібула, якой амаль 2 тысячы гадоў. Аналізуючы гэтыя знаходкі, Шуляк атрымаў каштоўную інфармацыю пра тое, як жылі землякі ў старажытнасці, чым займаліся, якія сувязі мелі. Кніга багата ілюстраваная, кожны можа пабачыць здымкі артэфактаў, якія цяпер знаходзяцца ў музеях. Яна мае навуковую каштоўнасць, на гэтую працу слонімца будуць спасылацца айчынныя і замежныя даследчыкі. Больш падрабязна пра кнігу Міхаіла Шуляка чытайце ў наступным нумары “СК”.

У пачатку 2018 года выйшла з друку першая кніга нашага земляка Васіля Герасімчыка “Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда”. Герасімчык — адзін з найлепшых даследчыкаў біяграфіі кіраўніка вызваленчага паўстання 1863-1864 гадоў і самога паўстання. Раней ён публікаваўся пераважна ў перыядычным друку, у навуковых зборніках. Нарэшце, асобным выданнем выйшла яго цікавая праца. Будзем чакаць з’яўлення новых кніг.







*Здымкі са старонак Міхаіла Шуляка і Васіля Герасімчыка ў сацыяльных сетках.*

**“Слонімскі край”** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару *Сяргей Ёрш*.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**

Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.